# Нацыянальная ідэя адродзіць Беларусь

***Беларуская Раніца паўстае над родным краем — гэта загартоўваецца Беларускі Дух!***

***Векавыя кайданы залежнасці ляцяць з плеч беларуса. Гэта фармуецца Беларуская Воля да ўлады!***

***Ачышчальнае полымя ў сэрцах тысяч сыноў Айчыны — гэта рэха Нацыянальнай Рэвалюцыі!***

***Я выступаю ад імя Беларускай партыі Свабоды (БПС) — правакансерватыўнай партыі, якая абвясціла і трымае лозунг: "Жыве нацыянальная рэвалюцыя!"***

Над Беларуссю — подых менскай вясны. Беларуская Вясна 96-га сталася знямяннальнікам новага часу, нарадзіла новыя надзеі і новую рэчаіснасць.

Спачатку ўпотай, у паўголаса, а пасля ўсё шырэй і сур'ёзней інтэлектуалы і палітыкі загаварылі аб перспектыве рэвалюцыйных працэсаў у беларускім грамадстве.

Чаму на Беларусі рэвалюцыйнае развіццё палітычных працэсаў падаецца ўсё больш непазбежным?!

Крызіс улады вялікі, як ніколі. Улада трансфармiравалася ў адзінаўладдзе. Канстытуцыйная ўзаемаўраўнаважанасць трох галінаў улады ператварылася ў калецкае скасабочанне з хваравітым нарошчваннем адной — прэзідэнцкай і заняпадам іншых — судовай і заканадаўчай улад. Дзяржава ператварылася менавіта ў калеку.

Уладары пачалі шукаць крымінальныя механізмы панавання.

Працэс разбурэння стаў дзяржаўнай ідэалогіяй.

Як след, пачаўся крах эканамічнай інфраструктуры. "Мёртвае поле" для інвестыцыяў, поўны заняпад дробнага бізнэса, страта нават малых рынкавых механізмаў. Разбурэнне беларускай эканомікі зрабіла беларусаў самымі беднымі людзьмі ў Еўропе(!) Статыстыка — рэч жорсткая. Па-большасці параметраў спад вытворчасці за "прэзідэнцкія" гады — амаль на 50 %. Жабрацтва — распаўсюджаная з'ява. Усё больш людзей, асабліва старыя, дзеці недаядаюць(!), не атрымоўваюць жыццёва неабходныя рэчывы — вітаміны і г.д.

Улада — гвалт цягне нас да грамадскага расколу. У беларускіх палітычных сілаў небяспечна звужаецца поле легальнай дзейнасці.

Яшчэ адзін аспект панавання ідэалогіі дзяржаўнага разбурэння — працяг знішчажэння беларускай моўнай культуры тэмпамі наймацнейшымі. Ідзе размыванне і знішчэнне традыцыйных беларускіх каштоўнасцяў. А на мёртвым грунце сады не растуць! Прывядзіце мне годны прыклад цяперашняй, апошнімі гадамі народжанай маралі? Адзінае "дасягненне" — гэта тое, што іншаземных авантурыстаў ды бандзюг абслугоўваюць самыя танныя і прыгожыя ў Еўропе беларускія дзяўчаты! Колькасцю венерычных захворванняў Беларусь апераджае суседзяў. Аборты сталі сапраўднай бядой сучаснай беларускай рэчаіснасці. Многія маладыя людзі ў пятнаццаць-дваццаць гадоў ужо перанеслі хваробы, пасля якіх няздольныя мець дзяцей. Колькасць памерлых усё больш апярэджвае колькасць народжаных.

Мінай запаволенага дзеяння становіцца міграцыя творчых людзей, у першую чаргу моладзі.

Гэта — своеасаблівы адказ на архаічны аўтарытарызм.

Аўтарытарная антынацыянальная ўлада вырачаная, але калі яе не пахаваць, яна будзе разлагацца яшчэ гады, знішчажаючы, спаскуджваючы ўсё жывое. Фундаментам грамадскага адраджэння здольна стаць толькі традыцыйная нацыянальна-дзяржаўная ідэя.

Яшчэ колькі гадоў назад свядомасць многіх заходніх краінаў была антырэвалюцыйная. Пасля сталінскіх і бальшавіцкіх эксперыментаў гэты тэрмін не карыстаўся станоўчай рэакцыяй, падаваўся нечым камуністычным ды небяспечным. Аднак за XX стагоддзе чалавецтва перажыла велізарныя прамысловыя, інфармацыйныя, сэксуальныя рэвалюцыі. А напрыканцы XX стагоддзя тэрмін палітычнай рэвалюцыі аднавіў былую сілу. Рэвалюцыі ўзнікаюць у выніку паступовага нарошчвання супярэчнасцяў, невырашальных у працэсе эвалюцыйнага развіцця. Палітычныя рэвалюцыі з'яўляюцца неад'емнымі з'явамі і этапамі ў развіцці цывілізацыі. Праўда, яны бываюць рознымі і могуць несці прама процілеглы эфект.

Сацыялістычная рэвалюцыя, згодна марксісцкай тэорыі, вышэйшы тып сацыяльнай рэвалюцыі, у ходзе якой ажыццяўляецца пераход да сацыялізму і камунізму. Такая рэвалюцыя павінна была зацвердзіць уладу рабочага класу. Сацыялістычныя рэвалюцыі на практыцы ажыццяўляліся надзвычай крывавым чынам (пр. Расія, Кітай), стаўшы спараджальнікамі жахлівых таталітарных рэжымаў, пераважаючых па жорсткасці ўсе папярэднія.

"Гегемонія пралетарыяту" абярнулася гегемоніяй вузкай касты камуністычных жрэцоў.

Нацыянальная рэвалюцыя з'яўляецца прамой процілегласцю левaрадыкальным сацыялістычным рэвалюцыям. Нацыянальная рэвалюцыя адбываецца ў падняволеных ад імперыялістычных дзяржаў краінах і накіраваная на дасягненне нацыянальнай незалежнасці,на пераадоленне класавых і сацыяльных супярэчнасцяў у грамадстве, на вызваленне агульнанацыянальных сілаў краіны дзеля яе вольнага, натуральнага развіцця. Нацыянальная рэвалюцыя больш шырокая з'ява, чым рэвалюцыя сацыяльная.

Нацыянальнай рэвалюцыяй гіторыкі нярэдка называюць з'ядненне Нямеччыны жалезнай рукой кансерватара Бісмарка, дзейнасць Пілсудскага. У канцы 80-х гг. XX ст. толькі на тэрыторыі Усходняй Еўропы адбыліся народна-нацыянальныя рэвалюцыі ў Чэхаславаччыне, Усходняй Нямеччыне, Румыніі, многіх краінах былога СССР. Сама смерць імперыі ды ўзнікненне новых незалежных дзяржаў суправаджалася рэвалюцыяй у ідэалогіях, свядомасці людзей. Мы бачылі гэтак званыя "бархатныя, пяшчотныя" рэвалюцыі, але бачылі і крывава-жорсткія, як румынская ці грузінская.

У Беларусі фармуюцца ўмовы нацыянальнай рэвалюцыі — і па зместу асноўных рухаючых сілаў і па характару патрабуючых вырашэння праблемаў.

Адразу пасля рэвалюцыі павінна прыходзіць рэстаўрацыя, пры якой новы ўрад праводзіць надалей стабільныя палітычныя і эканамічныя рэформы.

Таквіль неяк заўважыў, што рэвалюцыя тады мае сэнс, калі яна служыць узмацненню ўлады і стабільнасці. Левыя рэвалюцыі маюць уласціваць пераўтварацца ў дзікі крывавы хаос, жорсткасць, бессэнсоўны тэрор і ў рэшце рэшт у новы дэспатызм. Мяркую, Беларусі не пагражае перамога левых радыкалаў. Тэзіс дробных левацкіх груповак аб рэвалюцыі дзеля рэвалюцыі ў беларускім народзе безнадзейны. Сінонімам нашай рэвалюцыі павінныя быць Парадак і Стабільнасць. Нельга паддавацца спакусе плюнуць на законы.

Мы — абаронцы закону, Канстытуцыі і Дзяржавы. Найгалоўная мэта — пазбегнуць далейшага гвалту, спыніць дыктатуру. Альбо Беларусь чакае гвалт на гады. БПС не хавае, што мы рэвалюцыянеры толькі да стварэння новай чалавечнай цывілізаванай беларускай дзяржсістэмы, да навядзення парадку ў Беларускім Доме. Больш правільна нас называць дзяржаўнікамі, альбо ратавальнікамі Беларусі, яе абаронцамі.

Лепшым для Беларусі быў бы шлях навядзення канстытуцыйнага парадку ды пераход улады да кааліцыйнага агульнанацыянальнага ўраду даверу пры падтрымцы беларускай бюракратыі. Але прагназаваць у атручаным камунізмам ды нацыянальным нігілізмам чыноўніцтву патрыятызм надзвычай складана. Можа стацца, што яны апынуцца перад выбарам: альбо праліць чалавечую кроў, альбо падтрымаюць нацыянальную волю народа.

Пры ўсім неабходна прызнаць набліжэнне лёсавызначальнага часу для нашай Бацькаўшчыны. Агульны грунт большасці палітычных сілаў — антыўрадавы, і ён радыкалізуецца. Лукашэнка сам цалкам беспаваротна штурхае свой народ да расколу і набліжае час рэвалюцыйнага вырашэння сітуацыі. Цалкам магчымае развіццё сітуацыі, калі замест рэферэндуму ўлада атрымае Рэвалюцыю. Нізы далей не могуць так жыць, а вярхі няздольныя кіраваць нізамі.

24 сакавіка 1996 г. на палітычнай акцыі нарадзіўся лозунг: "Жыве нацыянальная рэвалюцыя!" На наступнай акцыі пратэсту ўжо сотні людзей скандзіравалі яго. Ідэя рэвалюцыі, што ачысціць краіну ад брыдоты, цямноцця, няволі, перакіне Беларусь у XXI стагоддзе, знаходзіць усё больш прыхільнікаў. Надыходзіць пераломны час у беларускай гісторыі, Беларусь чакае мужнасці і Волі ад сваіх сыноў.

**С.ВЫСОЦКІ,**
**для "БМ"**

ЛЕВАЯ, ПРАВАЯ



ГДЕ СТОРОНА?

# Революция за нами?

**Тихое и теплое белорусское лето стало идеальным препятствием к проведению всевозможных уличных акций. Массовая политическая деятельность была прекращена.**

**Однако это же лето создало такую же идеальную обстановку для анализа и подведения итогов "революционной весны" в относительно спокойной обстановке. Время проводить съезды.**

**В один августовский день с поездов на гомельском вокзале сходили люди. Они звонили по определенному номеру телефона и отправлялись на "конспиративную квартиру". Явок и паролей не было — все друг друга знали.**

**Так в Гомеле начался второй съезд Конфедерации Революционных анархо-синдикалистов (КРАС). Анархисты-синдикалисты из Москвы, Киева, Гомеля и Минска проводят свои съезды раз в пять лет, поэтому событие достаточно уникальное. Тем более, что больше в это время в Гомеле ничего не происходило.**

**Столь жа редким был съезд КРАС и по обсуждаемым вопросам. Помимо обычных отчетов о деятельности групп, "разбора полетов" и прочего перед делегатами стоял вопрос о принятии КРАС в Международную Ассоциацию Трудящихся. МАТ является правопреемником 1-го Интернационала, созданного анархистом Бакуниным и социалистом Марксом. По предварительным данным, вопрос о принятии будет рассматриваться в декабре нынешнего года. Принципиальное согласие на прием КРАСовских групп бывшего СССР у крупных западных анархических профсоюзов достигнуто.**

**Чем интересны съезды анархистов — это их неформальной обстановкой и результативностью. В то время, как партии работают по регламенту, голосуют мандатами и пр., и пр., и пр., анархисты просто берут чашку чаю и разговаривают до тех пор, пока все противоречия не исчезнут, а темные места не прояснятся. На этом съезде противоречия тоже были. В первый день съезда ребята сидели с 17 до 24-х часов (вот в чем преимущество квартиры!), пока не прояснили окончательно ситуацию на данной момент по бывшему СССР в целом. Потом это позволяло им с ходу принимать решения и резолюции, внося в них лишь небольшие редакционные правки. А резолюция в поддержку бастующих украинских шахтеров была написана и принята на съезде за 1 час! И это документ, идущий в 1 Интернационал!**

**Надо пояснить, что анархо-синдикализм — это такое течение в общей теории анархизма, которое подразумевает приход к свободному обществу через создание рабочими свободных профсоюзов (синдикатов). Путем революционной захватной стачки рабочие должны обобществить средства производства, на которых они работают, и начать управлять ими сами. Поэтому любую стачечную борьбу анархисты поддерживают как способ самоорганизации рабочих масс и прообраз будущей социальной революции. Естественно, съезд и принимал такие требования, как остановить репрессии в отношении бастующих шахтеров и профсоюзных активистов.**

**Не открою секрет: к людям, любыми доступными им способами поддерживающими борьбу с властью и против власти, неизбежно присматриваются спецслужбы и органы безопасности. В последнее время этот интерес заметно обострился. Проблемы со "службами" были в Минске и Киеве. Пока все обошлось мирно. Гомельские анархисты — так те вообще знают местных "людей в штатском" в лицо.**

**Прямо во время съезда поступила информация — во втором инструментальном цехе индустриального гиганта "Гомсельмаш" началась забастовка. Значит, анархистам опять разъяснять рабочим тактику борьбы и печатать им листовки с их требованиями. И просить поддержать бастующих на других предприятиях...**

**А в общем — прискорбно, что активную борьбу за свои права не решаемся начать мы. А пока мы не решимся — нам никто не поможет.**

*Сергей ПУЛЬША, "БМ"*

# Варта ладзіць мітынгі другога!

Ізноў другое. Ізноў мітынг.

Праводзіць мірныя мітынгі ў Мінску, калі на календары менавіта другое, становіцца добрай традыцыяй. Другога верасня стала люстэркавым адбіткам другога красавіка. Вядома, па традыцыі грамадства запрасілі на плошчу Незалежнасці з нагоды новай сесіі Вярхоўнага Савета: павінны ж выбаршчыкі даць сваім дэпутатам новыя наказы!

Ізноў традыцыйна — на жаль і на сорам! — з-за "асобага статуса" плошчы Незалежнасці ўлады перанакіравалі выбаршчыкаў да Палацу культуры чыгуначнікаў у Кастрычніцкім раёне Мінска. Відаць, усё было раней абмеркавана і ўзгоднена недзе, таму людзі, падняўшы бел-чырвона-белыя сцягі, рушылі на пляцоўку перад "чыгуначнікамі".

На гэты раз шэсце не было "шэсцем сляпых кацянят", як, іншым часам, падавалася ў красавіку, 2-га. Людзі ведалі, куды і навошта ішлі. Міліцыянты не заміналі шэсцю, АМАПу на шляху людзей бачна амаль не было. А да забітых аўтобусамі навакольных вулачак, праездаў, падваротняў народ так прызвычаіўся, што лянота нават кпіць з санлівых рознаформенных службоўцаў.

Затое каля Палацу чыгуначнікаў, на дахах навакольных дамоў стаялі і хадзілі нейкія асобы ў вайсковай вопратцы. Некаторыя меркавалі: "У спейпераў — вучэнне?"

На сустрэчу з дэпутатамі прыйшло каля 5 тысяч чалавек. І дэпутаты выказаліся наконт той палітыкі, якую яны плануюць праводзіць у Савеце. Выказаліся не толькі дэпутаты, але і прадстаўнікі палітычных рухаў, працоўныя, студэнты.

Ад абарончых лозунгаў накшталт: "Незалежнасць!" ці нэйтральных "Жыве Беларусь" народ пакрыху пачынае пераходзіць да яўна атакуючага лозунгу "Імпічмент!". Бачна: такое жыццё ўжо ўсім абрыдла, і яшчэ памяркоўныя ініцыятывы "круглага стала" народ ператварае ў найбольш "круцейшыя" і радыкальныя.

На жаль, не паўтарылася першамайская сітуацыя — "камуністы" і "нацыяналісты" на адным мітынгу, разам у абмеркаванні шляхоў вырашэння набалелых праблем. Хаця падстава для еднасці была — супрацоўніцтва на "круглым стале" наладжана. Трэба было толькі клікнуць. Але ці то Новікаў не пажадаў сустрэцца з выбаршчыкамі ў адной кампаніі з Багданкевічам, Баршчэўскім ды Знаўцом, ці то не так паклікалі...

Прапановы не прынеслі сенсацый. Ізноў лічылі, колькі грошай прэзідэнт атрымаў з "Таргэкспа" і фонду Эсамбаева, колькі часу не выплочваюць законна заробленае на прапрыемствах, на якія сродкі прэзідэнт збіраецца рабіць рэферэндум..

Былі і новыя трывожныя звесткі. Урадавыя структуры забаранілі эфір мінскаму гарадскому радыё "101,2". Частка рэдакцыі былой радыёстанцыі "Беларуская Маладзёжная" другі раз апынулася ў адлучэнні ад эфіру, пад "забаронай на прафесію". Першы раз пры Кебічы, другі — пры Лукашэнцы. У сувязі з гэтым пяцітысячная грамада сказала ўладам: "Ганьба!", але ад гэтага ў становішчы незалежнага гарадскога канала нічога не змянілася. Практыка зачынення газет і адлучэння журналістаў ад эфіру працягваецца. Сэнсацыя, хіба, калі людзі знойдуць спосабы і сродкі абараняць свае права на атрыманне непадцэнзурнай інфармацыі.

"У кулуарах" тым часам размаўлялі пра тое, што рахункі газет "Свабода" і "Наша Ніва" ужо арыштаваныя, у "Имя", "БДГ", газеце "Свободные новости Плюс" ідзе татальная праверка. Бачна, уладам непатрэбны іншадумцы напярэдадні рэферэндума за новую Канстытуцыю.

Разумеючы, што незалежная прэса пад ціскам і пагрозай знішчэння, людзі распачалі збор сродкаў на выданне антырэферэндумнай улёткі плануемым накладам у мільён экземпляраў. Цікава, ці надрукуюць яе ў друкарнях Беларусі? Або павязуць з Літвы, дзе маюць звычку друкавацца нашы незалежныя выданні? Ізноў караткевічаўскія "Кнiганошы"?

На дзіва спакойная міліцыя не чапала мітынгоўшчыкаў, паводзіла сабе карэктна і (што зусім дзіўна) не перашкаджала працаваць журналістам, прапускаючы іх паўсюль, куды яны толькі лезлі. Спакойна рэагавалі на ўлёткі з запрашэннем 8 верасня прыйсці да помніка Янкі Купалы ў 11 гадзін на святкаванне дня Беларускай Вайсковай Славы. І нават не зварухнуліся, калі натоўп аднагалосна прыняў рэзалюцыю з патрабаваннем ініцыяваць імпічмент прэзідэнту.

І яшчэ адна заўвага: відаць, адраджаецца традыцыя мітынговай песні-закліка. Спроба Сяржука Мінскевіча была дарэчнай.

Вярхоўны Савет атрымаў наказ выбаршчыкаў: бараніць Закон, правы і свабоды чалавека і ні ў якім разе не адступаць. Але ці зменшыцца наступальны імпэт прэзідэнта Лукашэнкі?

**Сяргей Пульша, "БМ"**

# Літаратурная гасцёўня "БМ"

## Сяржук МІНСКЕВІЧ

# НАВАСЕЛЬЛЕ Ў ЯЧЭІСТЫМ ХМАРАЧОСЕ

Як хтосьці ўжо сказаў: «Сям'я — гэта ячэйка грамадзтва, таму, мабыць, і жывем у ячэйках».

Кожнай сям'і па яйку... то бок, па ячэйцы! І ў чарзе стаім, і лічым за вялікае дасягненьне атрымаць уласнае шкарлупіньне.

Ура, нам пабудавалі кукурузу з жалеза, і бэтона, і кардона! Няхай квітнее Маладзёжны жылы масыў!

Двухпакаёўка на сорак дзевятым паверсе была нашая. Яна пахла шпалерным клеем і скразьняком, затое ніводная мэбліна не парушала бліскучы штыль падлогі. Мы зрабілі тры вальсавыя васьмёркі, пацалаваліся, стрымалі сябе, бо я яшчэ не рассьцяліў наш гонар — палутарны тоўсты матрас, і акрылёныя, анёльчыкі, мы разышліся да вечара змагацца зь сюрпрызамі недаробак недарабочых.

А вечарам яна, заваражальна хістаючы прыродным келіхам на дзьвюх ножках, аддалілася ў ванную.

Я раскінуў мяккі гонар, узмахнуў па чарзе прасьцінай, коўдрай, подушкай, паставіў у нагах бутэльку шампаньскага. Бурныя рыхтаваньні скончаны!

Я хутка распрануўся, нырнуў і салодка скурчыўся ў палоне бялізны, чакаючы іншага палону. Мне было прыемна чуць, як струмень вады разьбіваецца па любімым мне целе і як яна асалодна фыркае, булькае, плёскаецца.

Але на русалкавыя гукі пачалі накладацца, быццам знаходзісься ў чэраве савецкага магнітафона, іншыя фырканьні, паветраныя. Яны йшлі зьверху, збоку.

«Час пік» каханьня. Прынцып агульнае хаты. Што ж, ячэйкі ёсьць ячэйкі, усюды аднолькавая пляніроўка. Нават спачатку трохі цікава. Нявізуальны абмен навыкамі, прыёмамі, новымі дасягненьнямі. Гарачы шэпт: «Давай як у іх... Паехалі!»

Я адчуваў, як на мяне з паверха вышэй абрушваецца магутная лавіна страсьці, і сам пачаў распаляцца. Хутчэй жа, мілая!

Зьнянацку наверсе бухнула. Лавіна страсьці пад нявыносны трэскат... матэрыялізавалася ў град вапны і ваты. «Кардон, шкарлупіньне!» — пранеслася ў галаве. І на яе звалілася белае, голае, суседзкае, але таксама мілае!

Мае абдымкі былі сільныя і пяшчотныя, яе — зайчык.

— Што, муж вельмі тэмпэрамэнтны?

Яна паціху супакойвалася і захоплена прамовіла:

— Не, ён штангіст. Паўгады на зборах быў!

У той жа момант разьнёсься роў парахода ў тумане. Воблака тынкоўкі разьвеялася, я ўбачыў над сабой паўмэтровы круглы чырвоны маяк. «Ну і будка»,— прыкінуў я. Але будка крычала, пагражала, імпульсавала дурацкімі грымасамі. Вочы надзьмуліся і зрабіліся падобныя на рыбіныя пузыры. Адборны семянны гіпапатам біўся ў вадчайных канвульсіях — яго тушу моцна сьціскалі краі шчыліны ў столі.

— Божухна, каб толькі ён не праваліўся!

Я зь перапуду шчыльней абняў суседку. Тая аж віскнула. Пакой задрыжаў, парсюк з апошняй моцы скалануўся і... у мяне адлягло на сэрцы — ён надзейна засеў.

— Ха, патрапіў...

Але я ўлавіў ці ўспомніў мерныя гукі вады. Іней пакрыў мой пазваночнік.

— Адпусьціце мяне! Адпусьціце! — закрычаў я і забегаў па пакоі ў пошуку штаноў.— Зараз тут будзе мая жонка!

А са мною, Адамам, Божа-ж-ты-мой, суседка ў нэгліжэ ды голы штангіст над галавой.

— Што ж рабіць?! Што ж рабіць?! Давайце праз дзьверы дамоў,— загадаў я жанчыне.

— Вы звар'яцелі, напэўна! Куды я ў такім выглядзе?

— У чужую спальню ўламіліся, а праз лесьвіцу праскочыць ня можаце!

— Я да вас не па сваёй волі завітала.

— Нічога сабе — завіталі! Разьбілі ўшчэнт маю столь.

— Слюшяй, дарагой,— пратрубіў гіпапатам,— мі патэрпэлы ні мэнше. У нас тожі дырка в полю!

Сьціпла бразнула дзьвярная зашчапка ў ваннай.

— Тссс. Куды ж вас дзець? — Я кінуў пошукі штаноў, хаця падсьвядома адчуваў, што яны ўжо дзесьці блізка.— Давайце наспач праз шчыліну. Гэй ты, а ну суньallenся назад!

Штангіст паспрабаваў тузануць тазам, але не атрымалася.

— Слюшяй, дарагой, нэ магу.

— Што ты разныўся? Зараз прапіхнём.

Я ўстаў на дыбачкі і кончыкамі пальцаў уперся ў яго слаістую брушыну.

— Кгы-мммм,— выціснуў я зь сябе ад напружаньня.

Бяз проку.

— Паслухайце,— зьвярнуўся я да суседкі,— мне так нязручна, росту не хапае, ды падставіць няма чаго. Сядайце мне на плечы і штурхайце свайго мужа.

— Вы што, зусім?

— Штангіст! Скажы сваёй сарамлівіцы, каб сядала, бо зараз прыйдзе мая жонка, такі гвалт падыме!

Добра, сусед трохі кемлівы аказаўся, а можа яму ня вельмі прыемна было вісець паміж пяцідзесятым і сорак дзевятым паверхам.

— Пэрсык, прэлэст мая, сяд этаму нэшяснаму на шею.

Я ўзьняў яе, і мы закрахталі разам. Крахталі, крахталі, пакуль нас не пабраў дзікі нястрыманы сьмех. Я ўявіў, як заходзіць мая жонка і бачыць нашу дурацкую жывую піраміду — мужны атлант і чароўная карыятыда самаадданa імкнуцца падтрымаць адвіслы жывот чырвонага, заціснутага ў трэшчыне столі ідыёта.

Што ўяўляў аматар вагі, мяне ня цікавіла.

Дзесьці рыпнулі дзьверы — жонка!!!

— Харош, спускайся,— сказаў я суседцы,— усё роўна нічога ня выходзіць. Залазь хутчэй пад матрас — ён у нас палутарны, вось палову чалавека я табе і выдзелю.

— Як жа, як жа,— замармытала яна.

— Моўчкі, а калі трохі прыцісьнем — ня страшна, мы ўдваіх нашмат меней важым, чым твой родненькі.

— Пэрсык,— замычаў гіпапатам,— твой Мамука нэ хочэт, штобі ты в пастэле з другім мужчынай.

— А куды я яе дзену?!

— Мамука нэ хочэт.

«Во гад, га»,— падумаў я і ўбачыў ручнік. Вокаімгненна схапіўшы яго, амаль увесь запіхаў у рот штангіста.

— Больш ня вякнеш... А ну пад матрас і ні гу-гу!— злосна прашыпеў я Пэрсыку.

Тая скарылася.

Але яшчэ нешта турбавала мяне. Ага — парсючыя шырока акругленыя зрэнкі і... трохі ніжэй. Сваёй кашуляй я завязаў Мамуку-суседу вочы, а са знойдзеных проста пада мной штаноў зрабіў яму накідку на сьцёгны. Потым прыпарашыў яго раструшчанай тынкоўкай, дзеля маскіроўкі, а што — мабыць гэта ляпное аздабленьне столі, выява анёльчыка... затым насьпех прыбраўся ў пакоі.

Жонка прыскакала вясёлая, уся ў дыямэнтавых кропельках:

— Твая русалка з табой.

Мы абняліся, пацалаваліся, закружыліся нашыя галовы, два пёркі плаўна ўпалі на матрас, я прадбачліва з боку занятага паўчалавека.

— Ты сёньня ня вельмі... ммм... імклівы. Стаміўся, лапік? Ці перачакаў? — усьміхнулася русалка.

— Ды не... Ня та-ак...

Я пасьпешліва яе пацалаваў, супраць небясьпечных здагадак.

Але раптам мой скальп пачаў адслойвацца — над намі надта выразна забурчэла,— у жываце!

— Што там? — затурбавалася русалка, «рассыпалася» і зноў «насыпалася» — ужо жонкай.

— Мабыць, воданапорныя трубы,— а сам падумаў: «Вось, балотная карова, хто столькі п'е перад сном!»

— Слухай, а іх не прарвала? — працягвала заклапочаная супруга.— Нешта вельмі выразна булькае. Давай столь прастукаем.

— Ня трэба, а то суседзей зьверху разбудзім.

— Суседзі пацерпяць. Я не хачу, каб нас затапіла!

— Добра, добра, я сам прастукаю.

Я жвава ўскочыў, каб не адбылося непапраўнае, выбраў цэлую столь у сантымэтрах дзесяці ад тлустай квакаючай жабы, у якую мне так хацелася тыцнуць кулаком, і даволі гучна для жонкі пастукаў.

— Ты ня там прастукваеш, вось тут трэба,— і непапраўнае наступіла.

Жонка ўстала, працянула руку, яе роўненькі, танюсенькі, з акуратненькім пазногцікам, подлы ўказальны палец сарваў павязку з вачэй Мамукі. Павязка зьляцела і пацягнула за сабой ланцуг неверагодных падзей.

Жонка ўбачыла рыбіныя пузыры гіпапатама, хіснулася і звалілася на ложак, роўна на Пэрсыка, ад чаго зноў падскочыла ўжо да паветраных шароў ненажэрнага гіпапатама.

— Хт-т-т-т-т-т-тттттам? — затрэслася яе ніжняя сківіца.

— Матрас скамечыўся,— пачаў быў я, але, падаючы, цяпер жонка прыхапіла і мяне.

Пэрсык такога вытрымаць не магла і з пранізьлівым піскам зьявілася на сьвет, якраз побач са мной. А вось такога ня мог вытрываць Мамука-штангіст. Ён зароў у дзьве магутныя наздры і... да гэтага часу загадка, якім чынам,— зваліўся на нас. А мы ўсе паляцелі ў тартарары, а дакладней, у госьці на сорак восьмы паверх...

На наступны дзень усе газеты горада паведамлялі: «Клюб нудыстаў у поўным складзе пранік у ашчадны банк, які знаходзіцца на першым паверсе пяцідзесяціпавярховага хмарачоса.

Мэты пранікненьня высьвятляюцца».

**Рыгор Клім**

**(Па Янку Купалу)**

Журналісты! Журналісты!
Беларускія сыны!
Аналіты, аптымісты
З сэрцам і сумленнем чыстым,
Перакрыйце шлях хлусні!

Бо паўзе яна вужакай.
(Брыдка слухаць і чытаць.)
Несумленных тых пісакаў,
Трымаймордаўскіх служакаў
Здольны толькі вы стрымаць!

Данясіце праўду людзям!
(Праўда Боская — адна)
І яны вас не забудуць.
Ганарыцца вамі будуць,
Добрым словам успамінаць!




*Пункт гледжання аўтараў газеты не абавязкова супадае з пазіцыяй рэдакцыі. Адказнасць за дакладнасць фактаў, прыведзеных у артыкулах, нясуць аўтары публікацый*

**"Беларуская маладзёжная"**
**Рэспубліканская грамадска-палітычная незалежная газета**
**Заснавальнікі: М.Капчонаў і І.Цішын**

**Адрас рэдакцыі: 220134, Мінск, вул. Якубоўскага, 15-1-77**
**Кантактныя тэлефоны: 57-00-43, 20-98-04**
**Пасведчанне аб рэгістрацыі N 665**

**Падпісана ў друк 5 верасня 1996г. ў 14.30**
**Мінская паліграфічная фабрыка "Чырвоная зорка" (Мінск, 1-шы Загарадны зав., 3)**
**Кошт праз "Белсаюздрук" 2000 рублёў**
**Тыраж 4.5 тысячы экз.**
**Заказ N 565**

**Галоўны рэдактар Т.І.Мельнічук (Нічыпарук)**